## IX

Колгас «Хваля рэволюцыі» заснаваўся ня так даўно. Гады тры таму назад вярнуўся з Чырвонай арміі ў свае Клінкі Максім Шахлевіч.

Клінкі была даволі вялікая вёска, але к часу Максімавага звароту з Чырвонай арміі яна значна зьменшылася: больш заможныя гаспадаркі выбраліся на пасёлкі, на хутары. Хоць у Клінкох трохі і папрастарнела, але ўсё-ж рэшта гаспадарак, цягнучы старое ярэмца земляробскай акасьцянеласьці, жыла бедна. Пабітая на вузкія шнуркі, параскіданыя па розных мясьцінах і разгароджаная межамі зямля скупа аплачвала працу на ёй. І зямля была ня роўная: жоўты пясок, камяністыя ўзгоркі, сінялес, і толькі мясцамі трапляліся кавалкі добрай зямлі. Лепшыя землі захапілі пасёлкаўцы і хутаране, а яшчэ лепшая зямля была пад панскім маёнткам, дзе заснаваўся цяпер саўгас «Чырвоны Шлях».

Беднасьць і малазямельле змушала клінкоўцаў шукаць заработку на старане або каля дому, калі яны трапляліся. Адны ішлі на чыгунку— а яна праходзіла тут непадалёку—рамонтнымі рабочымі, другія складалі кадры батракоў і служачых у заможнікаў-кулакоў. Максім Шахлевіч

з пятнаццаці гадоў служыў у батраках і толькі за год да ваеннай службы кінуў сваё батрацтва і цэлае лета хадзіў з сястрою і старшым братам капаць торф на сваім-ж балоце, заарэндаваным адным коопэрацыйным таварыствам. Гаспадарка была ў іх невялікая, і з ёю спраўляўся бацька.

Максім быў самы вясёлы і самы рухавы ня толькі ў сям'і, але і ва ўсёй вёсцы хлопец. Ні беднасьць, ні служба ў чужых людзей, ні цяжкая праца ня зьніжалі яго добрага гумару. Любіў ён і пасьпяваць, і пасьмяяцца і прыправіць жартамі сваю бойкую гутарку. За вясёлы характар і працавітасьць яго любілі і шанавалі сярод клінкоўскай бедпаты. Ён скончыў пачатковую школу. Вольнаю часінаю любіў пачытаць газэту і кнігу. Наведваў сходы, уважліва слухаў даклады, асабліва прыежджых таварышоў. На ваеннай службе паступіў у комсамол і політычна значна разьвіўся. З Чырвонай арміі ён лёгка мог знайсьці сабе службу ў горадзе. Але ў яго былі іншыя думкі.

— Не,—казаў ён,—на службу не хачу: пайду дамоў рабіць рэволюцыю ў Клінкох.

У Максіма быў ужо зложан шырокі плян організацыі колгасу ў Клінкох. Вярнуўшыся з арміі, ён зараз-жа і прыступіў да работы. Сваю ра-

боту ён пачаў з організацыі комсамольскай ячэйкі. Нельга сказаць, каб гэта работа давалася яму лёгка. З першых-жа дзён Максіму прышлося ваяваць з сялянскаю консэрватыўнасьцю, з неорганізаванасьцю і анархічнасьцю клінкоўскіх хлапцоў. Але патроху, па-малу ён ўцягнуў у работу найбольш жывых і актыўных з моладзі і сярод яе пачаў пропагандаваць ідэю залажыць у клінкох колгас, не чакаючы покі гэту работу пачнуць рабіць за іх другія. Сваімі сіламі адчынілі хату-чытальню, пачалі праводзіць сходы, рабіць даклады, выпускаць насьценную газэту, дзе асьвятлялася іх сялянскае жыцьцё, асуджаўся стары быт, прымітыўныя спосабы гаспадаркі і рэзка ставілі пытаньне аб эксплёатацыі кулакамі клінкоўскай бедматы. Ва ўсёй гэтай справе насьценгазэта адыграла вялікую ролю. Заварушыліся пасёлкаўцы і кулакі на хутарох. Першая і значная прабоіна ў закасьцянеласьці сялянскага жыцьця была зроблена. Клясавая сьвядомасьць клінкоўскай беднаты была абуджана. Яна цясьней гуртавалася навокал ідэі колектывізацыі і рашуча рыхтавалася ў паход супроць мясцовых павукоў. Калі такім парадкам была праароблена папярэдняя работа, комсамольская ячэйка склікала агульны сход сялян. На

сходзе пастаўлена пытаньне аб арганізацыі ў Клінкох колектыўнай гаспадаркі. Сход быў шумны і бурны. Сярод клінкоўскай беднаты знайшліся праціўнікі колектывізацыі. Але ўсё-ж такі пераважная большасьць клінкоўцаў пастанавіла перайсьці ў колгас.

Узрушаны і радасны Максім Шахлевіч пры гэтым сказаў:

— Т.! Пачатак зроблены. Дазвольце запэўніць вас, таварышы, што наша справа колектыўнай гаспадаркі ёсьць справа жыцьцёвая, правільная, а таму ёй належыць будучыня... Далоў усякія хістаньні! Сьмялей наперад!

На гэтым-жа сходзе было абрана і праўленьне колгасу і месца, дзе павінен быць колгасны штаб. Як асаблівасьць гэтай пастановы, трэба адзначыць, што для «штабу» быў адведзены пустыр у полі збоку ад Клінкоў. На гэтым пустыры ў тую-ж восень перавезьлі будынкі шасьці гаспадарак. Замест шасьці клунь, шасьці хат і столькі-ж усялякіх іншых будынкаў пабудавалі адну прасторную клуню, накрылі яе новаю страхою, як залатым плашчом сьвежай аржаной саломы. Выштукавалі адну абору, дзе можна было зьмясьціць ня менш, як трыццаць кароў і гэтулькі-ж цялят. Паставілі зухаваты сьвіронак,

сьвінарнік і выстраілі тры дамы для шэсьці сем'яў, адвёўшы месца для колгаснай конторы і для дзіцячай пляцоўкі. І ўсё гэта было зроблена сваімі сіламі, сваімі майстрамі.

На пустым месцы, у полі вырас цэлы пасёлак, першая аснова новай, цікавай і не для ўсіх яшчэ яснай формы маладога жыцьця. Гэты пасёлак вырас па ініцыятыве Клінкоўскай беднаты і складаў іх сапраўдную гордасьць. Сюды, як да вогнішча ў халодную цёмную ноч, накіроўваліся думкі, імкненьні і надзеі новых колгасьнікаў. Сюды-ж падымаліся і поўныя нянавісьці вочы хутаран і пасёлкаўцаў.

— Т.! аснова колгасу палажана,—казаў па адчыненьні пасёлку Максім:—а цяпер прыступім да справы.

Новая вясна чакае нас. У нас ёсьць час, каб сустрэць яе ў поўнай зброі, па-бальшавіцку. Нашу поўную перамогу забясьпечыць нам грамадзкая сьвядомасьць, дысцыплінаванасьць і наша актыўная праца на фронце соцыялістычнай гаспадаркі.

Новы колгас назвалі «Хваля рэволюцыі».

Сюды, у гэты колгас, і дыбаў цяпер наш Пракоп Дубяга, неразумны вандроўнік, дэлегат-самазванец.

## X

Нясьмела і няўпэўнена ўваходзіў Пракоп у новы колгасны пасёлак «Хваля рэволюцыі».

Даволі было кінуць гаспадарскім вокам на двор, на колгасныя будынкі, каб адчуць, што справа тут пастаўлена на цьвёрды грунт, што чыясь моцная і разумная воля пракладае шырокую дарогу ў новы гаспадарскі дабрабыт.

Першае, што кінулася Пракопу ў вочы, быў узорны парадак і чыстата, на двары і каля будынкаў. А гэтых будынкаў, дзеравяных і мураваных, малых і вялікіх, крытых саломаю, гонтамі і чарапіцаю, было тут многа. Спрактыкаванае вока староньняга гледача заўважала, як шпарка рос гэты колгасны пасёлак, удасканальваючыся ў сваім будаўніцтве, з якога дбаласьцю, стараннасьцю і прадуманасьцю абмяркоўвалася кожная будыніна, кожная драбніца ў ёй. А гэтыя новыя мураванкі, вырасшыя за апошні год, сьведчылі аб поступу наперад колгасьнікаў, аб іх замілаваньні да новых форм жыцьця. Сьнег у тую зіму быў глыбокі, і ўжо па адных толькі сьцежках, пракіданых у сьнезе па розных кірунках прасторнага двара, па шырокіх пляцоўках, прачышчаных каля клуні і іншых бу-

дынкаў, па высокіх і роўных валах сьнегу можна было судзіць аб гэтым парадку.

Ураджаны і зьдзіўлены Пракоп запыніўся, ступіўшы на тэрыторыю пасёлка, бегла акінуў поглядам колгасны двор і будынкі, як-бы разважаючы, куды накіравацца і да каго тут зьвярнуцца.

Яго старамодная сялянская постаць у саматужнай шапцы з аўчыны ў доўгім памятым кажусе, зьбітая на адзін бок пасівелая і занядбалая барада, пануры, загрубелы, абветраны твар і глыбока запаўшыя вочы, у якіх адбіваўся смутак і непакой бяздомнага бадзягі, ніяк не стасаваліся з агульным тонам гэтага пасёлку і яго гаспадарамі, сям-там мільгаўшымі па белым фоне ў глыбі двара і каля будынкаў.

Пракопава дэлегацкая роля крыху замітусілася, адчуўшы трывогу і страх, і ўсё ніжэй і ніжэй стала апускацца на дно. Так бывае з непапсованымі ці, справядлівей, з мала напрактыкаванымі ў дробным ашуканстве натурамі, калі яны прабуюць зьвязаць надуманы фальш з праўдаю жыцьця. Але адступаць ужо было позна, і Пракоп трапліва рушыў да першай чалавечай постаці, што найбліжэй трапілася яму ў гэты час. Маладая зграбная жанчына ў чырво-

ным кажушку, шчыльна і кулежна атуляўшым яе стройную фігуру—відаць, спэцыяльна на яе пашыты кажушок,—вышла з дзьвярэй хаты і жвава падалася па сьцежцы ў бок новай будынінь.

— Пастойце!—махнуў Пракоп кіем.

Маладая жанчына спынілася, кінуўшы на Пракопа крыху зьдзіўленыя і трохі строгія шэрыя вочы. Можа-б яны былі ласкавейшыя, каб яе зачапіў не Пракоп, а хто-небудзь малады і прыгожы.

— Будзьце ласкавы, мілая, скажэце, хто тут у вас начальства і дзе яго знайсьці?—пачціва зьвярнуўся да яе Пракоп.

— Начальства ў нас няма. А калі хочаце пабачыць старшыню колгасу, то ён напэўна ў конторы,—адказала маладая жанчына. Але, відаць, і самой ёй паказаўся сухім яе адказ, і яна ўжо лагодней дадала:

— Кантора унь там, у мураванцы... Хадзеце за мною, пакажу,—ужо зусім мякка загаварыла маладая жанчына.

«Ці добра зрабіў, што адразу запытаў пра начальства?» Думаў Пракоп, ідучы за маладою жанчынаю: «трэба было-б трохі разглядзецца і не пароць так гарачкі». Ён адчуў, што яго меркаваньні і пляны адносна яго дэлегацкай ролі ад-

разу-ж разыходзяцца з практыкаю. Але многа разважаць аб этым ня прышлося: яны спыніліся каля дзьвярэй конторы.

— А па якой-жа вы справе?—пацікавілася на ўсякі выпадак маладая жанчына.

— Ды вось хачу паглядзець ваш колгас... Ад Ґрамады я...

Гэты адказ зусім задаволіў маладую жанчыну, а Пракоп адчуў некаторую палёгку, і ён навт асьмеліўся запытаць:

— А хто такі сам старшыня калгасу?

— А ён мой муж, калі хочаце ведаць, Максім Шахлевіч,—горда адказала маладая жанчына.

— Муж ваш!—зьдзівіўся Пракоп, зірнуў на маладую жанчыну і з дасьціпнасьцю спрытнага кавалера заўважыў:

— То добрую жонку мае старшыня вашага колгасу!

Жанчына ўсьміхнулася, а Пракоп зазначыў сам сабе, што справы ён не папсаваў, а такая разьвязнасьць дэлегацтву ня шкодзіць.

Прасторная і сьветлая контора, куды ўвайшоў Пракоп, была галоўным дзелавым штабам колгасу. Яна ня зусім яшчэ была скончана, і пабеленыя мураваныя сьцены выступалі тысячамі

цагляных рэбер. На сьценах віселі розныя плякаты і лёзунгі адпаведна патрэбам часу. На аднэй сьцяне віселі портрэты Карла Маркса і Леніна, а насупроць іх зьмяшчаліся Сталін і Варашылаў, Чарвякоў і Галадзед. Каля сьцяны пры ўваходзе стаяла самадзельная дзеравянная канапка, невялічкі кніжны шафік для конторскіх кніг і папак, дзе хавалася розная перапіска і запісы. Два сталы, пісьменны і звычайны, таксама самадзельнай работы колгасьніцкіх майстраў, ды некалькі крэсел і складалі ўсю мэблю і аўстаноўку конторы. Сама-ж контора зьяўлялася часьцю мураванага сьвірна з прасторным ацамантованым падвалам. У гэтай будыніне хаваліся галоўныя колгасьніцкія продукты: зярно, бульба і гародніна.

За пісьменным сталом сядзеў малады хлопец з задзёрыстым віхрастым чубам, комсамолец Грышка Гаруй. Ён быў дзелаводам і бухгальтарам. З аднаго і другога боку стала былі— старшыня колгасу Максім Шахлевіч і яго намесьнік Кандрат Ваган. Правяралі конторскія кнігі. Справа гэта для іх новая.

— А ўсё-ж такі, брат Грышка, ня шкодзіць, я думаю, пабыць табе на бухгальтарскіх курсах. Колгас наш расьце, справа ўскладняецца,—заклю-

чыў рэвізію кніг старшыня колгасу і дадаў:

— Гаруй, не гаруй!

На гэтай вясёлай і жартлівай яго прыказцы зьявіўся на парозе конторы Пракоп.

## XI

Усе трое паднялі вочы на Пракопа. У сваю чаргу Пракоп зірнуў на іх.

— Прабачайце, таварышы!—першы загаварыў Пракоп:—хто тут старшыня колгасу?

— Я!—азваўся Максім і вокам вайсковага чалавека зірнуў на Пракопа.

— А сам хто будзеш?—запытаўся і ён.

— Дубяга Пракоп, з вёскі Затоньне... Прышоў я да вас, таварышы, паглядзець, як будуеце вы колгас. У вас-жа, бачу, можна павучыцца.

— Ага!. ну, добра... Сядайце!—паказаў старшыня Пракопу на канапку.

Пракоп сеў, зьняў шапку і павесіў яе на заціснуты між кален кій. Гэтую прывычку набыў ён за часы свайго вандроўніцтва.

— А вы самі колгасьнік?

Пракоп трохі замяўся.

— Як вам сказаць? і колгасьнік і не колгасьнік... Мы толькі нядаўна пазапісваліся, а ра-

боты, сказаць, яшчэ няма ніякай. Людзі ў нас маласьвядомыя, а справа яна цёмная,—як будзе, што будзе. Адны кажуць так, другія гэтак. Дык трэба хоць паглядзець, як людзі ў колгасах жывуць, каб ведаць, як да чаго прыступіцца.

Гаварыў Пракоп, і няёмка было яму пад поглядамі незнаёмых людзей, перад якімі, праўду сказаць, ён разыгрываў комэдыю. А гэтыя людзі пазіралі на яго ўважна, і асабліва старшыня. І вочы ў яго вострыя і быстрыя, так, здаецца, і праніклі ў Пракопава нутро. Але твар яго добры, лоб шырокі, адкрыты, і ўсё аблічча яго хіліла да сябе. Пракоп пераводзіў свой зрок то на смуглы твар Вагана, то на ваяцкі Грышкаў чуб, то на адкрыты вясёлы твар старшыні.

— Ну, а самі-ж вы як глядзіце на колгас?— проста запытаў старшыня.

— Па-мойму, калі-б усе былі дружныя ды працавалі-б так на колгас, як працуе кожны сам на сябе, то чаму-ж? колгас—рэч добрая. Што адзін чалавек, а што грамада!

— А як вы організавалі свой колгас, самі ці вас хто з боку падпіхаў?—загуў басам Ваган.

— Да ўсё адно з другім злучылася. Маладыя дык тыя больш напіраюць. Вось і мой сын Мі-

кіта, падлётак, мае да колгасу вялікую ахвоту. Другі сын, Андрэй, у Чырвонай арміі, піша, каб ня слухалі кулакоў і няпрыменна ішлі ў колгас.

— А ваш сын ў Чырвонай арміі?—пацікавіўся старшыня.

— Служыць і такі ўжо заядлы колгасьнік, што сьвет гатоў перавярнуць, а колгас яму давай.

— Значыцца, маладзец ваш сын, дзядзька Пракоп,—адобрыў Грышка Гаруй.

— Ну, што-ж, таварышы, кончым конторскую работу. Паабедаем, накормім нашага госьця, няхай ён трохі адпачне... Вы-ж ня надта сьпяшаецеся?—зьвярнуўся старшыня да Пракопа.

«Вось залаты чалавек», падумаў Пракоп і далікатна сказаў:

— Вы аба мне ня турбуйцеся, таварыш. А сьпяшацца мне некуды так. Ды ў мяне і хлеб свой ёсьць,—Пракоп палажыў руку на пазуху.

— У парадку азнаямленьня з нашым колгасам вы павінны наведацца і ў нашу сталоўку. І месца для вас мы знойдзем.

Пракоп прагавіта глытаў сьліну і яшчэ раз падумаў: «Золата, а не чалавек».

Старшыня ўзяў Пракопа пад сваю апеку і павёў яго ў сталоўку.

Для сталоўкі была пастаўлена спэцыяльная хата, накрытая чарапіцаю, з двума прыгожымі ганкамі і прасторнымі верандамі і наогул мела выгляд даволі фарсістага дачнага будынку. На верандах сталаваліся летнім часам. Цяпер яны пуставалі, прыкрытыя фанэраю, каб не наносіла туды сьнегу. Сама сталоўка займала палавіну дому і двума ходамі злучалася з кухняю: праз адны дзьверы несьлі страву ў сталоўку, а праз другія выносілі парожную пасуду.

На сьценах сталоўкі віселі надпісы, напамінаўшыя аб гігіене: «мыйце рукі перад ядою», «ня пеце сырой вады», «выцірайце ногі» і інш. У карыдорчыку стаяў бляшаны ўмывальнік, а пры ім віселі ручнікі. Каля парогу ў сталоўцы была паслана мата з саломы выціраць ногі. Адным словам, гігіена мела тут сваю адпаведную матэрыяльную базу, каб гэтыя напісы не аставаліся пустымі напамінаньнямі.

Пасярэдзіне стаяў даўгі стол на казлох. За гэтым сталом магло разьмясьціцца чалавек дваццаць, а каля сьцен, па адзін і па другі бок, малыя сталы: тры з аднаго боку і тры з другога.

Такім чынам зараз у сталоўцы магло свабодна абедаць чалавек сорок, але было яшчэ шмат вольнага мейсца, каб пры патрэбе гэты лік можна было значна павялічыць.

Гордасьць і здавальненьне сьвяціліся на твары старшыні, калі ён паказаў Пракопу сваю колгасьніцкую сталоўку. Пракоп не знаходзіў адпаведных слоў выказаць сваё зьдзіўленьне.

— І гэта ўсё зрабілі вы самі, сваімі сіламі?— дзівіўся ён.

Старшыня весела пасьміхаўся, як-бы ведаючы ўсе Пракопавы мысьлі.

— Самі, дзядзька, самі. Трэба толькі ясным вокам убачыць новае жыцьцё ды ўсьвядоміць сабе ўсю надарэчнасьць старой дробнай гаспадаркі.

— А! брат ты мой!—ахаў Пракоп ды пачухваў патыліцу.

— Захочаш па-настаяшчаму—усё зробіш грамадою.

— Ну, як-жа вы ўсё-ж такі збудавалі гэты дом? Ды і не адзін гэты дом—у вас, бачу, шмат чаго пабудавана?

— Расказваць можна тут і доўга і коратка. Я раскажу вам кароценька. Наш колгас не малы:

у нас паўтары тысячы га зямлі, і народу ў нас ня мала: сем'яў каля двухсот. Чаму пашлі мы ў колгас? Таму, што зусім ясна ўсьведамілі перавагу колектыўнай гаспадаркі над гаспадаркай індывідуальнай. Стаўшы на гэты шлях, мы і пайшлі дружна, як адзін. Пачалі мы з гэтага пасёлку. Майце на ўвазе, што тры гады таму назад тут было пустое месца. Вось мы і надумаліся залажыць тут ядро, фортэцыю нашага колгасу, яго штаб. Кінуліся гуртам, перанесьлі сюды будынкі шасьці гаспадароў, перакроілі іх ды зрабілі адну добрую клуню, тры дамы і іншыя патрэбныя пры іх будынкі. Справа пашла. На сёняшні дзень мы тут маем сорак сем'яў. Навошта-ж кожнай сям'і, кожнай гаспадыні ў хаце траціць час, сілу на вазьню каля печы? Падумалі, меркавалі і зрабілі адну кухню на ўсіх... Мая жонка стаяла летась за сваю кухню, а папробуй цяпер скажы ёй пра сваю кухню—яна табе чапялою ў нос суне.

Наш пасёлак зьяўляецца тым асяродкам, каля якога і накшталт якога будуць расьці новыя. У нас ужо ёсьць такая програма, шырокая програма. Усе нашы колгасьнікі бачаць, што мы—на правільным шляху і дружна бяруцца за работу. А гэта самае важнае. Ня думайце, што

ўсё гэта лёгка дасца. І самае труднае—арганізаваць рабочую сілу, паставіць кожнага на сваё месца. А мы гэтага дабіліся, мы гэта зрабілі.

## XII

Застаўшыся адзін у пакойчыку для «гасьцей» і акінуўшы яго поглядам, Пракоп сам сабе падміргнуў, кіўнуў галавою.

— Вось табе і колга-а-с!—ціха і працягла сказаў ён сам сабе.

Гэты пакойчык зьмяшчаўся ў тым-жа доме, дзе жыў і старшыня колгасу, і адгароджваўся ад яго кватэры сьветлымі і даволі прасторнымі сенямі, а за глухою сьцяною жыла сям'я колгасьніка. Тры шырокія дзеравяныя тапчаны з саламянымі падушкамі і сянікамі, засланымі коўдрамі сялянскага вырабу, служылі пасьцельлю. Спэцыяльнае прызначэньне гэтага пакойчыка—даваць прытулак чужым людзям, па той ці па іншай справе наведваўшым колгас.

У пакойчыку было цёпла, ціха, утульна. Пахла смалою сьвежага дрэва. Гэтая каморка, або «станцыя», як называў яе Пракоп, паказалася яму верхам чалавечага добрабыту. Ён скінуў кажух, палажыў яго ў ногі на тапчан, і сам выцяг-

нуўся ва ўсю даўжыню свайго стомленага і аця-жалелага пасьля ёмкага абеду цела. «Добра жывуць, ядры іх качалку!»—пазайздросьціў ён колгасьнікам і пагладзіў тугі, як барабан, жывот. Даўно ўжо так не абедаў Пракоп і лепшым доказам гэтага багатага абеду служылі засеўшыя ў зубах кавалачкі гавядзіны. Цяпер наш дэлегат выкалупліваў іх адтуль пруткаю саломінкаю і страляў імі аж у процілеглую сьцяну. Такі-ж самы абед елі і ўсе колгасьнікі, так што Пракопавы меркаваньні аб яго дэлегацкіх прывілеях адпадалі тут самі сабою. Гэты ёмкі абед наводзіў на Пракопа сон і спакой духа. У безьмяцежным разважаньні над проблемаю, што лепш, ці быць колгасьнікам ці дэлегатам успраўе азнаямленьня з колгасам, ён і заснуў крэпкім сном.

Яшчэ адна прыемная неспадзяванка чакала Пракопа ў гэты дзень. Вечарам, пасьля здаравецкага храпака, яму, як дэлегату, далікатна запрапанавалі паглядзець колгасьніцкую лазьню, а калі ў яго будзе ахвота, то і памыцца ў ёй. Пасланцом быў колгасьнік, Пракопаў сусед па кватэры, Мікола Гнак.

Лазьня таксама добры і дарагі пачастунак для госьця, асабліва такога, як Пракоп, і хоць

яна—установа і старасьвецкая, тым ня меней аўторытэт яе высока стаіць і ў нашы дні. Сяродджа колгасьнікаў лазьненскія дні лічыліся чуць ня сьвятам.

— Ну, і малайцы-ж вы: і лазьню сваю маеце!—з захапленьнем азваўся Пракоп.

— Як ня мець у колгасе лазьні? Папарышся ды памыешся—проста як-бы ты другі раз на сьвет народзішся. На цэлы год здароўя прыбавіцца,—адказаў Мікола.

— Даўно ўжо ў калгасе?

— Тры гады.

— Ну, і скажы-ж, браток: лепш вам у колгасе ці не?

Для Пракопа гэта было пякучае пытаньне.

Мікола ўскінуў на Пракопа вочы, усьміхнуўся.

— Дзіўны вы чалавек. Да што-ж тут і пытацца? Калі-б вы ведалі, як мы жылі раней і як сталі жыць цяпер, што мелі мы тады і што маем цяпер, то вам сьмешна было-б пытацца аб гэтым. Да вы-ж паглядзеце на нашы будынкі, на нашы кватэры да на нашы машыны. Гэта-ж нашы работнікі! А паглядзелі-б вы на наша поле вясною, летам... Скажу вам проста: цяпер толькі і жыцьцё мы пабачылі, цяпер толькі і сьвет нам адчыніўся.

У гэтых гутарках незаметна прайшоў час і ад‑легласьць да лазьні. Праўда, яна была тут і недалёка, крыху на вотшыбе за будынкамі пры лагчынцы, дзе прабівалася невялічкая крыніца-ручаёк. На гэтым ручайку выкапалі сажалку, аблажылі яе берагі каменьнямі, дно прачысьцілі і пабудавалі лазеньку, правёўшы трубы ў сажалку, адкуль і бралі ваду. Лазьня была прасторная і выгодная. Адна палавіна была адведзена для разьдзявальнай, а ў другой мыліся і парыліся. Тут ужо мітусілася з дваццаць колгасьніцкіх голых цел, пачырванелых ад пару і венікаў. Шум, жарты, вясёлыя выкрыкі поўнага задаваленьня поўнілі лазьню. Сярод гэтых галышоў Пракоп угледзіў ваяцкі чуб комсамольца Гаруя, якога спаткаў ён у конторы.

Пракоп разьдзеўся. Яму, як дэлегату, далі венік, пахучы, як май. З венікам пад пахаю і з нагавіцамі і кашуляю ў руцэ пашоў ён парыцца, мяркуючы, куды-б латвей прыстроіць бялізну, каб яе найлепш праняло параю, бо ў бялізьне за часы яго вандроўніцтва завялося ня мала шасьціногіх яго эксплёататараў. Павесіўшы яе над дзьверамі печы, дзе давалі пару, ён палез на палаткі.

— От дзе рай, браткі мае! А-а-х, як добра!— выгукнуў і пакрэхтваў ад задаваленьня Пракоп, грэючыся на палатках і няміласэрдна хвошчучы сябе мяккім венікам. Гразь і бруд споўзвалі і сплывалі з яго гадамі нямытага цела.

— Падай, падай пары!—крычалі аматары папарыцца.

Чырвоны, як рак, угнуўшы галаву, падаваўся Пракоп на ніз, бо такога гарачага пару, якога нагналі цяпер колгасьнікі, ён з няпрывычкі мыцца ў лазьні, ня мог перанесьці.

— Дайце вам плечы пашарую,—запрапанаваў свае паслугі Мікола Гнак.

Пракоп падставіў сьпіну, а Мікола з заядласьцю і спрытам заправскага лазьніка шараваў яму сьпіну і сьцёгны.

— Ой, браток, і скуру з мне спусьціш!

— Нічога, нічога!—заспакойваў яго Мікола:— каб помнілі нашу лазьню.

— Ох, якая-ж тэта слаўнота!—Слоў не знаходзіў Пракоп, каб выказаць сваё адчуваньне і захапленьне лазьняю.

А калі ён выходзіў памыты з лазьні, то казаў:

— Праўду гаварыў ты, браток: усё роўна як

ёноў ты на сьвет нарадзіўся: так лёгка, так добра,—ну, як-бы табе дзесяць гадоў скінулі!

Мікола Гнак запрасіў Пракопа да сябе на чай пасьля лазьні ды за адно каб і паглядзеў ужо і на яго кватэру.

## XIII

Першае, што ўсюды кідалася Пракопу ў вочы пры аглядзе колгасу, было—чыстата і парадак. Гэты парадак і гэта чыстата заўважаліся і ў кватэры Міколы Гнака, куды зайшоў Пракоп пасьля лазьні. Зграбная, увіхная гаспадыня, з падстрыжанымі цёмна-русымі валасамі, адзетая як-бы трохі на гарадзкі лад, ветліва сустрэла мужа і госьця. І другое назіраньне, якое спасьцярог тут Пракоп, не магло не зьвярнуць на сябе яго ўвагі: і мужчыны і жанчыны, малыя і старыя колгасьнікі ў гэтым колгасе рабілі ўраджаньне новай пароды людзей. Усе яны былі рухавыя, жывыя, гаворкія, ветлыя, вясёлыя і ў дадатак да ўсяго гэтага, выражаючыся груба—гладкія, падкормленыя і нейк па-свойму адзетыя. Ня было той замкнёнасьці, той панурасьці і заклапочанасьці, што зазвычай характарызуе насяленьне старой вёскі.

Кватэра Міколы Гнака мела ў сабе тры асобныя каморы-пакойчыкі выгадна злучаныя між сабою дзьвярамі: прыгожая, якую-б можна назваць і кухняю, бо тут стаяла звычайная вялікая печ і меліся некаторыя адзнакі ранейшых сялянскіх хат; далей ішоў другі пакой, адгароджаны ад першага тоўстымі дошкамі, прасторны і сьветлы. Яго можна назваць і гасьцінаю і сталоваю і, нарэшце, трэці пакой, таксама адгароджаны дошкамі, служыў спальняю. У кухні-прыгожай падлога была цагляная, а ў сталовай і ў спальні — дзеравяная. Шырокія дарожкі-доматканкі, паложаныя ў сталовай і ад сталовай у спальню, сьведчылі аб тым, як дбаюць тут аб чыстаце і акуратнасьці. Замест абразоў на сьценах вісела некалькі плякатаў і портрэтаў выдатных палітычных дзеячоў. Таксама ня было тут і традыцыйных сялянскіх лавак уздоўж сьцен. Іх замянялі канапа, простыя крэслы самадзельнага вырабу і некалькі акуратных табурэтаў. Насупраць уваходу стаяў стол, накрыты белым абрусам, а на стале ўжо весела пашумліваў самаварчык, вядучы сваю няўпынную гутарку. На падлозе каля стала забаўляліся дзеці. Іх было двое: малы хлопчык Пятрусь, гадкоў тры, і старшая пяцігадовая дзяўчынка Насьця. На дзіцячым

табурэцiку ляжалi фiгуркi жывёлiн, выразаных з паперы Насьцяю. Цяпер яна вырэзвала конiка, а Пятрусь уважна глядзеў i паяўленьне новай жывёлiны сустракаў радасным крыкам.

— Распранайцеся-ж ды сядайце за стол,— зьвярнулася гаспадыня да госьця, а сама расстаўляла шклянкi i слодкi, увiхаючыся каля стала.

Зьдзiўлены i моцна ўражаны Пракоп нясьмела сеў за стол у гэтай няпрывычнай для сябе абстаноўцы. Яму нiколi ў жыцьцi не даводзiлася пiць чай з такою раскошаю, як тут. Ён недаўменна пазiраў на кватэру, на гаспадароў. З аднаго боку як-бы гэта i простыя сяляне, але-ж гэта кватэра—проста такi гарадзкая, панская! Ён стараўся зьвязаць у сваiх мысьлях штось знаёмае для яго ў сялянскiм быце, што бачыў ён тут, з тым, што пракладала сабе новую дарогу. I ўсё гэта нiяк не ўкладалася ў яго галаве.

— Скажэце,—ня ўтрываў, нарэшце, ён:—цi ў вас усе так жывуць, як вы?

— А што?—Мiкола прыкiнуўся, што не зразумеў яго.

— Да проста мне ня верыцца, што я на ква-

тэры ў колгасьніка: жывеце вы, як паны! Выбачайце мяне.

— Як людзі, вы хачаце сказаць?—паправіў яго Мікола:—так, жывём лепш, як жылі да колгасу.

— Чыста ў вас, хораша. І няўжо-ж гэтак у вас штодзень? Ці можа гэта жонка ваша такая ўдалая гаспадыня?

— У нас парадак такі, адзін для ўсіх,—азвалася гаспадыня.

— І як дабіліся вы такога парадку?

— А вы чулі пра самакрытыку?—запытаў Пракопа гаспадар.

Ніякага рэальнага зьместу не ўкладаў Пракоп у гэта слова. Ён моўчкі глядзеў на Міколу, баючыся паказацца невукам і чакаючы паясьненьня.

— Усім нам добра вядома, у якім брудзе жылі мы вякамі. Мы яго нават і не заўважалі, лічучы, што для мужыка так і павінна быць. Цяпер-жа, калі ўсё старое, што заядала нас, мы выкінулі на сьметнік, перад намі паўстала пытаньне: няўжо-ж мы гэты спрадвечны бруд захаваем і надалей? Не: мы аб'явілі яму сьмяротны прыгавор. І не на словах, а і на справе. А калі хто адставаў або мала зварачаў на гэта ўвагі, таго ўжо нашы жанчыны, наш колгасьніцкі жаночы актыў,

бралі на прыцэл. Ну, каму-ж гэта хочацца папасьціся на язык і за што? за неахайнасьць? І навошта-ж яна, калі можна жыць па-чалавечы, калі гэта і для вока прыямней і для твайго-ж здароўя лепей?

— Праўда ваша,—пацьвердзіў Пракоп, з шумам дапіваючы другую шклянку чаю.—Мяне яшчэ вось што цікавіць: на якім палажэньні жывяце вы ў колгасе—ці як гаспадары ці як рабочыя?

— І тое і другое. Гаспадары—пасколькі колгас зьяўляецца нашым, рабочыя—пасколькі мы працуем на нашай агульнай гаспадарцы.

— Ну, а ці маюць колгасьнікі сваю, асабістую маемасьць, ну, скажам кароў, сьвіней?—дапытваўся Пракоп.

— Такога права ніхто з нас не пазбаўлен,—тлумачыў Мікола.—але вось цяпер сталася так, што гэтым правам ніхто ўжо ня хоча карыстацца. Чаму? да проста няма ніякага разрахунку! Нашто мне той лішні клопат хадзіць за кароваю, за сьвіньнямі, мець для іх і памяшканьне і корм, калі і малака і сьвініны, колькі мне трэба, дасьць наш-жа колгас? Яшчэ год таму назад сёй-той чапляўся за гэтыя рэшткі дробнай уласьніцкай

гаспадаркі, а потым пабачылі ўсю недарэчнасьць і непатрэбнасьць іх і кінулі.

— А скажэце, як у вас разьмяркована работа?

— А разьмяркована яна так, што на кожную работу ставяцца найболей адпаведныя колгасьнікі. Агульнае наша правіла такое: ніводзін працаздольны колгасьнік не павінен астацца без работы. Ёсьць колгасьнікі, што ходзяць пры машынах, другія даглядаюць скаціну, трэція—тыя ці іншыя майстры, чацьвертыя абслугоўваюць колгасьнікаў... Да ці мала работы ў такой гаспадарцы?

— А хто ставіць на работу?

— Самі. Выбіраем праўленьне сваё і яму даручаем распараджацца рабочымі рукамі, а ў некаторых выпадках склікаем агульныя сходы. Кожны з нас мае сваё цьвёрдае заданьне, і яго трэба зрабіць.

— І многа прыходзіцца працаваць?—дапытаўся Пракоп.

— Да працы то хапае. Але якімі-б ударнымі тэмпамі мы тут ні працавалі, усё-ж, трэба вам сказаць, працуем мы процантаў на трыццаць меней, чым працуе гаспадар на сваёй уласнай

дробнай гаспадарцы і процантаў на пацьдзесят меней батрака, што працаваў раней у кулака.

— А куды вы дзеяце вольны час.

— Адпачываем, чытаем кнігі, газэты, слухаем даклады, лекцыі. Няпісьменныя вучацца стаць пісьменнымі. Хто мае хвоту і здольнасьці, ідзе то ў музычны, то ў тэатральны гурток...

— Цікава!—круціў галавою Пракоп, адчуваючы, як розныя думкі вартуюць яго старую галаву, каб насесьціся на яе, калі ён застаецца сам з сабою.

## XIV

Ноч, працятая пругкім холадам, пазірала ў падвойныя вокны Пракопавай станцыі. Пасьля поўначы неба выясьнілася, засеялася рознакаляровымі трапухкімі агончыкамі-зорамі, дрыжучы і лагодна пераліваючыся мяккім вясёлкавым бляскам. Мільярды такіх-жа агоньчыкаў адсьвечваліся і ў сьняжынках белага покрыва абмярцьвелай зямлі, паныла і нярухома занямеўшай у маркотным зьзяньні месяца. А месяц ужо даўно зрушыў з палавіны свае дарогі і хіліўся да краю зямлі, абярнуўшы ў яе бок свае бліскучыя вострыя рожкі.

Гэты глыбокі спакой і тужліва зьмярцьвелае зьяньне месяца, зазіраўшага ў вокны Пракопавай станцыі, наводзілі на яго маркоту і сум. Ён востра адчуў сваю адзіноту, сваю адарванасьць ад людзей, сваё бадзяньне ў дарогах, сваё дармаедзтва. Уражаньні ўчарайшага дня выплывалі ў яго памяці жывымі зьвеньнямі сапраўдных праяў тутэйшага колгасьніцкага жыцьця і калі рэзкую граніцу паміж двома сьветамі сялянскага побыту. Тое, што бачыў Пракоп з першых-жа дзён свайго далёкага няпоўнага азнаямленьня з колгасам і з колгасьнікамі, яго моцна зьдзівіла. У глыбінях свае сьвядомасьці ён адчуваў, што калі-б у колгасе ён знайшоў непарадкі, разьбежнасьці з гаспадарскімі запатрабаваньнямі, то яму было-б лягчэй на сэрцы. А ўсё гэта выплывала з яго прадузятай варожасьці да колектывізацыі. Праўда, шмат чаго засталося для яго незразумелым. Для яго былі няясны тыя спружыны і ўся тая мэханіка, што прыводзіла ў рух жыцьцё ў гэтым колгасе. Ён ўспомніў свайго суседа па кватэры, Міколу Гнака і гутарку з ім учора. Няўжо гэта ўсё праўда? Няўжо людзі так перарабіліся ў колгасе, што асабістая ўласнасьць для іх не мае значэньня, і яны так-жа дбаюць аб колек-

тыве, як некалі дбалі аб сваіх уласьніцкіх інтарэсах? Ці шчасьлівы яны тут і як мысьляць яны сваё шчасьце?

Такія пытаньні балюча і востра ўставалі ў Пракопавай галаве, і ён думаў над тым, як знайсьці тут праўдзівы адказ.

Яшчэ не разьвідням лася, але Пракоп, па прывычцы ўставаць рана, заснуць ужо ня мог, сьпяшацца ня было куды, і ён ляжаў, разважаючы аб праявах людзкога жыцьця. «Аднакжа колгасьнікі ня надта сьпяшаюцца ўставаць», крытычна заўважыў ён сам сабе, бо ўжо пачынала разьвідняцца, а на колгасьніцкім двары было яшчэ ціха. Не сьпяшаючыся, Пракоп адзеўся і ціха вышаў на двор сустрэць новы дзень і аддаць падатак свайму старому звычаю— тупаць да дня на двары.

Бледна-яснае неба на ўсходзе сьвятлела, расчышчаючы дарогу каароткаму дню. Насычанае крохкім, як шкло, марозным паветрам чульліва лавіла ранічныя гукі на скрыпучым сьнезе і далёка кідала іх у прасторы. Мернае і як-бы нясьмелае паскрыпваньне сьнегу пад нейчымі нагамі пачулася каля клуні, і чыясь постаць, постаць чалавека з ёмкім мяшком на плячох, выплыла з парадзелага змроку і пасунулася ўніз

на вузенькай сьцежачцы, тулячыся ў задворках між колгасных будынкаў. Пракоп зацікавіўся, перамяніў позыцыю, каб яшчэ раз пабачыць гэту постаць і праверыць сваю здагадку, што гэта напэўна хто-небудзь з колгасьнікаў цішком панёс колгаснае дабро. Але гэта постаць зьнікла, а Пракоп толькі крутнуў сам сабе галавою, упэўнены ў праўдзівасьці свае здагадкі. Яшчэ прайшло некалькі хвілін цішыні, і колгас патроху пачаў абуджацца. Грукнулі дзьверы ў адным, у другім месцы, пачуліся людзкія галасы, і некалькі колгасьнікаў паказаліся на двары. Потым заскрыпелі вароты ў клуні і, трошкі счакаўшы, сярдзіта зашамкала сячкарня вострымі нажамі, перасякаючы салому на дробныя шматочкі.

— Дзень добры, таварышы!—сказаў Пракоп, спыніўшыся на парозе клуні.

Два колгасьнікі завіхаліся каля сячкарні. Адзін падаваў салому ў жолаб пад зубы і нажы, а другі круціў кола спэцыяльна прыстасаваным апэсткам. Цэлыя струмені перасечанай саломы сыпаліся на ток. Даволі ёмкая кучка сечкі, як невялічкі стажок, стаяў на таку, як відаць загатаванай раней. Двое другіх колгасьнікаў насыпалі сечку ў цабэркі, насыпалі яе промежкаю, што тут-жа стаяла ў дзеравянай скрыні, напіз-

валі цабэркі на доўгую тоўстую палку і несьлі каровам.

— Добра ідзе работа ў вас!..—пахваліў сечкарэзку Пракоп.

— Наладзіліся,—азваўся круцільшчык.

— Добра, добра!—яшчэ раз пахваліў Пракоп і сам узяўся за ашэстак, каб папрабаваць, як лёгка ходзіць кола.

Абхапіўшы пальцамі ашэстак, Пракоп налёг, крутануў раз, другі. Першыя некалькі колаваротаў патрабавалі намаганьня мускулаў, а потым, калі кола разгайдалася, яно ўжо само далучыла сілу інэрцыі да сілы мускулаў рук і круцілася лёгка.

— Вось яно табе і тэхніка! — дагодліва азваўся Пракоп. Работа скончылася, і ён зьлёгку затрубіў носам, адвярнуўшыся, як чалавек далікатны, у бок ад сечкі.

— Ну, эта ўсё-ж такі саматужніцтва,—солідна заўважыў падаваўшы салому ў жолаб сячкарні, таксама прачысьціўшы нос яшчэ старым сялянскім спосабам.

— Мы мяркуем прыладзіць маторчык,— важна дадаў ён.

— О! гэта ўжо будзе... дасягненьне!—

Пракоп быў здаволены, што знайшоў такое трапнае слова.

У кароткай дзелавой гутарцы ён даведаўся аб разьмеркаваньні работы паміж колгасьнікамі ў колгасе і аб яго ўнутраным распарадку. Важнейшыя пытаньні колгасьніцкага жыцьця вырашаліся агульным сходам колгасьнікаў. Гэта быў як-бы маленькі зьезд Саветаў. Кіруючым прынцыпам быў лёзунг: ніводзін працаздольны колгасьнік не павінен заставацца без работы. Работа-ж павінна разьмяркоўвацца так, каб кожны работнік найбольш падыходзіў да яе і найболей адпавядаў свайму прызначэньню. Таксама браўся тут пад ўвагу і прынцып добраахвотнасьці. Разьмеркаваньне работы і прызначэньне на яе работнікаў даручалася праўленьню колгасу.

— Ну, а калі-б усе захацелі сечку рэзаць?— хітра пад'ехаў Пракоп.

— А грамада што скажа?—адказаў Лапко, што падаваў салому.

— А самакрытыка на што?—уставіў слова і круцільшчык Макрыня:—ну, і грамадзкая дысцыпліна,—дадаў ён.

## XV

Пракоп і яго новыя знаёмыя накіраваліся з клуні бліжэй да хлявоў. Па дарозе спыніліся каля спэцыяльнага будыначку па суседзтву з хлявамі. Раз ужо Пракоп хоча азнаёміцца з колгасам, то мінуць гэты будынак яму не выпадае. Так прынамсі казаў Лапко. Але ў даным выпадку ім кіравала пераважна гордасьць будаўніка і аўтара проекту гэтага будынку. Лапко ў колгасе—відная фігура, і ён у поўнай меры заслугоўвае таго, каб сказаць аб ім некалькі слоў.

Лапко быў вясковы муляр, але ня муляр-профэсіянал, а муляр-мастак, бо ў сваёй творчасьці ён унікаў штампованых форм і спосабаў работы і стараўся даць што-небудзь новае, орыгінальнае, як з боку рацыяналізацыі, так і з боку хараства. Калі яму здаралася быць у каго-небудзь на рабоце, злажыць там печ, склеп ці што, то перш чым прыступіць да работы, ён з усіх бакоў вымяркоўваў плян, кіруючыся асаблівасьцямі месца, абстаноўкі, характарам гаспадароў, іх густам і г. д. Усе ведалі гэтую асаблівасьць выдатнага муляра, любілі яго і шанавалі, асабліва дзеці і гаспадыні. Яны ўносілі

свае проекты, давалі парады, а Лапко ўважна слухаў, рабіў свае папраўкі, даваў контпроекты, і ўсё гэта абмяркоўвалася разам, і калі ўжо даходзілі да агульнай згоды, тады толькі прыступаў ён да работы. А дзецям зьверх праграмы ён выляпліваў з гліны хвацкія цацкі: сьвісьцёлкі, казельчыкаў, баранчыкаў, парасятак, сабак, а ў апошнія часы шэдэўрам яго мастацтва была вылеплена з гліны фігура пана Пілсудзкага з доўгімі вусамі і нагайкаю. Усе, хто пазіраў на гэтую фігуру, проста качаліся са сьмеху. Чым дасканалей выходзіла работа, тым меншую плату назначаў Лапко. Бывалі выпадкі, калі на гэтым грунце выпікалі самыя прыемнейшыя ў сьвеце спрэчкі. Проста яго ўпрашвалі набавіць цану, але Лапко не парушаў сваіх прынцыпаў.

— Добра яно вышла, ну і добра. Гэтым самым плата мне падвышаецца,—казаў у такіх разох Лапко.

Будынак, перад якім спыніліся колгасьнікі з Пракопам, быў комбінаваным будынкам новага тыпу, пабудаваны па проекту Лапко. І вельмі трудна аднесьці яго да якой-небудзь пэўнай катэгорыі будынкаў. Гэта быў разам і склеп, дзе хавалася розная агароднина для жывёлы— рэдзька, бручка, буракі, бульба,—і кухня для

гатаваньня стравы сьвіньням і цялятам. Разам з тым Лапко ўмудрыўся выштукаваць тут і цэлы пакой, кватэру для галоўнай сьвінаркі Таклюсі Гальпікі. Калі прыняць тут пад увагу некаторыя акалічнасьці, як, скажам, наяўнасьць таго факту, што Лапко быў яшчэ кавалерам, хоць яму падбіралася пад палавіну пятага дзесятка, і той факт, што Таклюся была бязьдзетная ўдава і таксама яшчэ жанчына-ягада, то стане зразумелым тое стараньне, з якім Лапко змайстраваў гэты будынак і пакойчык для Таклюсі.

Большая часьць Лапковага будынку, склеп, знаходзілася ў зямлі. Гэта была прасторная чатырохкантовая яма даўжынёю ў восем мэтраў і на чатыры мэтры шырыні. Сьцены склепу былі абложаны каменьнямі, моцна сцэмантаванымі, а дно вымашчана цэглаю. Акуратнае скляпеньне, як неба над зямлёю, зьвісала над ямаю. Зьверху скляпеньне было прысыпана зямлёю і абложана дзірваном, праўда, цяпер закрытым сьнегам. У вузейшай часьці, дзе скляпеньне падымалася над долам, была зроблена вузенькая, доўгенькая аконная рама ў чатыры шкельцы. Акенца было зроблена так, што яго можна было лёгка вымаць, а пры патрэбе апускаць у спэцыяльна зробленую шчыліну.

Калі трэба было складаць у склеп агародніну, то да акенца пад'яжджалэі хурманкі, акенца апускалася, ставіліся жалабы-латакі, і на гэтых жалабох скочвалася бульба і ўсякая гародніна ў свае адпаведныя сусекі. Каб папасьці ў склеп, то трэба было зайсьці ў кухню, адтуль вузенькім праходам, дзе, праўда, лёгка маглі разьмінуцца два чалавекі, спусьціцца па ступеньках уніз і адчыніць шчыльныя дзьверы, што аддзялялі склеп ад кухні.

— Гэта ўсё—штукарства яго,—паказаў Макрыля Пракопу на Лапка:—пабачце, як тэта ўсё спэцыяльна зроблена.

— Можна было-б зрабіць яшчэ лепей,—скромна заўважыў Лапко:—ды ня было так вельмі калі разгортвацца.

Усе трое ўвайшлі ў кухню.

Кухня была прасторная і даволі сьветлая з цагляным памостам. Чвэрць кухні займала нізкая ёмкая печ з двома ўмураванымі катламі—для награваньня вады і для варкі бульбы. Для адводу пары была зроблена выцяжная труба над шырокім бляшаным каптуром. Каля сьцяны стаяла вялізнае дзеравянае карыта з паднятым крыху адным канцом,

У спушчаным канцы карыта была зроблена дзірка, заткнутая спэцыяльным шпунтам на манер гарадзкіх ваннаў. У карыце прамывалася бульба. А брудная вада сама вылівалася праз дзірку ў дне карыта і сьцякала на двор: пад карытам ў падлозе Лапко зрабіў зьліў.

Пазіраў Пракоп на ўсе гэтыя дасканаласьці, ківаў галавою і дзівіўся.

— І людзі-ж у вас здольныя!

— Людзі, як людзі, ды ня было дзе і як праявіцца ім,—казаў задаволены Лапко, паказваючы Пракопу цікавыя рэчы і даючы тлумачэньні.

Але самым цікавым, прынамсі для Лапка, быў тут пакой для Таклюсі, бо яго афармленьне найболей займала майстра і ўзяло ад яго, можна сказаць, львіную долю творчага энтузіязму. Таклюся, завязаўшы ў кружок чырвоную хустку канцамі на патыліцу, жывая, хударлявая, секла ў цэбры бульбу. Яна зірнула на Пракопа, а потым на Лапка. Гэты погляд глыбокіх цёмных вачэй казаў Лапку, што яна зразумела яго і нічога ня мае супроць таго, каб паказаць дэлегату яе будуар, гаворачы мовою буржуазіі. Лапку-ж было трохі няёмка ўводзіць чужога чалавека ў Таклюсін пакой. Але спакуса паказаць сваё

майстэрства ўзяла верх над іншымі пачуцьцямі.

Таклюсін пакойчык быў зусім адгароджаны ад кухні. Адною сьцяною яго служыў выступ, куды Лапко прапусьціў душнік для награваньня пакою. Гэты выступ шчыльна ўпіраўся ў столь. Ёмкая дзеравяная пераборка адгароджвала пакойчык з другога боку кухні. Угары, пасярэдзіне пераборкі, было зроблена акенца. У гэтай-жа пераборцы былі і дзьверы. Пакойчык быў сухі, цёплы, зусім прасторны для аднаго чалавека. Але затое-ж якіх толькі пячурак, ямак, закарвашачкаў не нарабіў тут Лапко. Усё гэта дзеля таго, каб чалавеку сапраўды выгодна было тут разьмясьціцца. І Таклюся ў поўнай меры была задаволена сваім пакойчыкам. А для Лапка гэта было самае галоўнае, бо хто-ж гэтак аб ёй паклапоціцца?

## XVI

У кухні кіпела дружная работа. Дзьве Таклюсіны памочніцы раскладалі корм сьвіньням, абмешвалі—каму чыстаю ячнаю, аўсянаю або грэцкаю мукою, каму промешкаю, а каму і мякінаю—у залежнасьці ад сьвіных катэгорый, і борзьдзенька адносілі сваім выхаванцам. Выха-

ванцы-ж іх, а было іх тут за трыста штук, падымалі такі гармідар, усёроўна як-бы пад імі пачаўся «земляўздрыг», як называюць зямлятрасеньне ў газэце «Савецкая Беларусь». Двое колгасьнікаў, прыстаўленых за доглядам рагатай жывёлы, бралі са склепу буракі, каб падмацаваць дойных кароў. Сюды-ж сходзіліся дойкі, тут-жа парадкавалася малако і адпускалася поўная норма тым колгасьнікам, што паздавалі свае каровы ў колгас. Лапко прыглядаўся да работы; як гаспадар, кідаў тут сваё вока, аб сім-тым распытваўся, што трохі зьдзівіла Пракопа.

Пазіраў Пракоп на гэтую, як называў ён, фабрыку, непасрэдна наглядаючы колгасную работу і знаёмячыся з яе організацыяй. Так, ён даведаўся, што колгас вызначыў цэлую групу колгасьнікаў, брыгаду, па часьці абслугоўваньня жывёлы, а на чале гэтай брыгады стаяў ня хто іншы, як наш муляр Лапко. Такія-ж брыгады былі вылучаны і для іншых работ, з якімі меў дачыненьне колгас.

«А бадай што так і лепш», падумаў сам сабе Пракоп, і мімавольна на памяць яму ўсплылі словы яго Мікіты: «Тут ты робіш тысячы работ, а там будзеш рабіць адну». Пракоп незаметна ўздыхнуў, але спыніцца на гэтых думках цяпер

ня было калі: рабочая мітусьня, жывое жыцьцё разьбівалі яго думкі. У гэты-ж час сюды прышоў і старшыня колгасу Максім Шахлевіч.

Ніводнага дня не прапускаў старшыня, калі ён быў дома, каб не абыйсьці свой колгасны абход і асабіста не паглядзець, як ідзе справа. Ніколі ня мінаў ён у такіх разох гэтай кухні і хлявоў, каб сваім вокам паглядзець на жывёлу і асабліва на коняй. Сам ён служыў у кавалерыі, прывык хадзіць за канём і ўмеў хадзіць, і колгасныя коні карысталіся асабліваю ўвагаю старшыні колгасу. Быў у яго тут улюблёны жарабок са спэцыяльным прызначэньнем множыць конскую пароду. Сяды-тады, каб ня даць яму застаяцца, ён сядлаў яго і, як дасканалы кавалерыст, любіў віхрам пранесьціся на сваім «Ворану». Колгасьнікі пазіралі тады на старшыню з захапленьнем і гордасьцю.

— Хоць карціну пішы,—казалі яны.—Няхай толькі сунуцца паны: пакажуць нашы малайцы па чым хунт сушанага ліха!

Колгасьнікі любілі Шахлевіча, Шахлевіч любіў свой колгас. Галава яго была заўсёды поўна ўсякіх новых плянаў, проектаў, як паставіць лепей колгас,, як палегчыць працу чалавека і мець большы эфэкт, каб гэтым самым агітаваць

за колектывізацыю суседнія вёскі. Сваю аддананасьць ідэі колектывізацыі ўмеў ён перадаць і сваім колгасьнікам. Ён пашыраў і паглыбляў колгасьніцкі актыў, уцягваючы яго ў грамадзкую работу.

— Добрый раніцы, таварышы!—сказаў ён, увайшоўшы ў кухню, а з дзядзькам Пракопам павітаўся за руку.

— Ну, як падабаецца наша гаспадарка?

— Маёнтак!—у прастаце душы сказаў Пракоп,

— Ня зусім ён маёнтак: у маёнтку пан сядзіць,—заўважыў старшыня.

— Розьніца тая, што панам тут ня пан, а колгасьнікі,—папраўіўся Пракоп.

— Ну, гэта яшчэ туды-сюды,—згадзіўся старшыня.

— Лепшай гаспадаркі, як у панскім маёнтку, таварыш ня бачыў,—закінуў слова за Пракопа Лапко.

— А нашу жывёлу бачылі?

— Не, яшчэ ня былі там,—адказаў за Пракопа ізноў Лапко, а потым дзелавіта далажыў:— Ведаеш, брат старшыня, аб чым я ўсё думаю?

— Ну?

— Тут трэба было-б нешта прыдумаць з гэтаю вадою.

— А што?

— Да вось бачыш ты: ваду прыходзіцца цягаць у катлы саматугам: і цяжка, і гразь наносіцца, і часу забірае многа.

— Гэта ты праўду кажаш. І сам я аб гэтым думаў. Трубы трэба правесьці?

— Так, трубы.

— Памяркуй да прыкінь, як і што. Зложыш свой проект...

— Проект у мяне гатовы.

— Тым лепей. Сёньня-ж разгледзім і рэзолюцыю наложым.

— Залаты ў вас чалавек Лапко—заўважыў Пракоп.

— Мы яму прэмію выдамо,—адазваўся старшыня.

— На што мне тая прэмія: добра будзе, вось табе і прэмія.

— Не, брат, ня дзе ты дзенешся: прэміруем!

Уся гэта гутарка адбылася па дарозе ад кухні ў хлявы.

Каля Пракопа, старшыні і Лапка сабралася цэлая грамада колгасьнікаў. Было відаць, што яны не сароміліся паказаць чужому чалавеку

